Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня».

ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. Вільня, Пятныца, 18 ліпня 1919 г. № 48.

*Вільня, 18 ліпня 1919 г.*

«Сплецену з церняў маеш карону», Беларуская Зямліца! Цяжкай цярністай пуцявінай ідзець Беларуская Грамада забіваючыся незалежнасьці сваёй Бацькаўшчыны. Як і шмат вякоў назад змагаюцца на нашай зямлі чужыя войскі, чужыя народы, чужыя ўплывы. «Паны б'юцца»... і як ужо нават праковетная прыслоўе кажа, «у мужыкоў чубы тращчаць». У Менску, у Магілеві, Віцебску, усюды, дзе пануюць «апосталы новага жыцьця», камуністычнага «раю», дзе яны нібы на сьмерць змагаюцца буржуазіяю, гэтая буржуазія паўлазіла ў іхныя калцыляры, камісарыяты і чэразвычайкі, а ворагам камунізму абвешчаны беларускі мужык, беларускі інтэлігент.

Пазаставаліся арганізацыі жыдоўскія, польскія ды нават літоўскія ў сэрцы Беларусі—Менску, а беларускія разгромляны. Лепшыя працаўнікі пазамыканы ў менскіх вастрогах, павыважаваны ў маскоўскія вастрогі. А сколькі беднага галоднага сялянства разстрэляна комуністычнымі карацельнымі атрадамі у Дзісьненшчыне, у Барысаўшчыне, у Магілеўшчыне і Смаленшчыне? На поўсьвядома ішлі яны бараніць роднай зямлі, ішлі бяз броні, «з касамі, сярпамі» і каб прагнаць тых, хто хоча адзець ланцугі на Беларусь. І памерлі яны з жаданьнем волі, незалежнасьці на вуснах.

І другая ваюючая старана не забывалася на беларусаў. Хто ня памятае, як гэтай зімою павырасталі беларускія сялянскія арганізацыі у Віленшчыне і асабліва у Горадзеншчыне? Як беларускае сялянства пачало само адбудову роднага краю. Сколькі творчае ініцыятывы было аб'яўлена, якія адкрываліся тады гарызонты! У глухіх валасцёх, дзе найбойшым інтэлігентам быў народны вучыцель, ствараліся саўсім арыгінальныя формы адміністрацыі, суду, школьнага будаўніцтва і г. д. Іх вытвараў здаровы сялянскі розум, а выконывалі пылкі сялянскія рукі, аслабаненыя ад векавой няволі. Дзе цяпер усё гэта? Дзе гэтыя Рады, камітэты, дзе сотні беларускіх дзеячоў, што пайшлі будаваць народную долю?

Яны абвешчаны бальшавікамі і гніюць у вастрогах. Чужая рука, што прыйшла нібы аслабаніць і адбараніць нас ад маскалёў, не пасаромялася красу народу нашага зьнішчыць, а ўвесь народ застрашыць. У імя чаго гэта робіцца? — У імя таго, каб розныя гешэфтмахеры, што сьмеюць называць сябе «сынамі гэтай зямлі», прадавалі Беларускую Зямлю чужой дзяржаве гуртом і ў розьніцу. Кажуць, што тут, таксама, як там на Усходзе, паміралі людзі, пастаўленыя «да сьценкі» з славамі замілаваньня да Роднай Зямлі, паміралі, ахвяруючы маладае жыцьцё сваё справе незалежнасьці Беларусі.

З кожным днём прыбываюць усё новыя весткі аб тым, як нашыя асвабадзіцялі, кідаюць у вастрогі ўжо не радавых нават працаўнікоў беларускіх, а тых, чыё імя ў вачах беларускага грамадзянства абкружана аўрэолем даўгой барацьбы і вялікіх заслугаў перад справай нашага нацыянальнага адраджэньня.

Не зьвяртаюць ужо ўвагу на тое, што гэтымі распраўамі наносяцца самыя балючыя зьневолі ўсяму беларускаму грамадзянству, што паглыбляецца роў гранічны, цераз які не прайсьці будзе даўгі час.

Пасьля арышту Станкевіча, пасьля таго, як хворы на гарачку Дзекуць-Малей праседзіў бяз цені віны больш двох месяцаў у Ваўкавыскім астрозе, цяпер арыштаваны Тумаш Грыб, адзін з лідэраў Усебеларускага конгрэсу, вёўшы там зацятую барацьбу з бальшавікамі, той самы Т. Грыб, які выступіў на конгрэсе з дэклярацяй аб абвешчаньні незалежнай Беларускай Рэспублікі.

Каля нас усё вышэй і вышэй падымаюцца хвалі барацьбы паміж стыхіямі чужымі і варожымі. А шкадуючы ахвяры мусім весьці нашыя чаўны ў цёмныя далі, дзе ўсьмяхаецца нам зорка незалежнасьці. О, шмат яшчэ будзе ахвераў на нашым шляху, шмат церняў далажыць яшчэ доля ў карону Беларусі. Але сыны яе ўжо маюць пацеху і яны ведаюць за што ідуць у вастрогі і на сьмерць.

Кожын высілак зьбліжае нас да вялікай нашай мэты. Ужо справа нашая выплыла на шырокі сьвет, на вольнае мора і ўжо сталі мы побач з іншымі пакрыўджанымі народамі і ў адін голас з імі можам протэставаць і патрэбаваць. Ужо мы маем спосабы бараніцца. Дык няхай шалеюць ворагі, няхай бяруць ад нас ахвяры. Іхні час. А мы ня трацьма веры, што прыдзе і наш час.

## Пруска-польскі патрыятызм.

Па свойму «заслужэнный» на віленскім бруку п. Ян Обст (што па нямецку значэ «фрукт»), патомак пруска-нямецкай шляхты і сын прускага перэсяленца ў Літву, даўгалетні фактычны рэдактар клярыкальнай віленскай польскай прэсы, у ночы с серады на чэцьвер, с 16 па 17 ліпня 1919 году пачуў, што прускага нахаджэньня сэрцэ яго перапоўнілася польскім патрыятызмам і ён у праўдзіва прускім стылю даў выраз гэтаму па рыатызму ў перэдавіцы (Dziennik Wileński № 73) празначэнай на страву тым, хто імем Хрыстовым арудуюць.

Характэрны зместь, у прускім стылю польскага патрыатызму, зводзіцца да таго, што ўсіх „іначэй" роджэныя, а ў першы чарод астаўшыхся на віленскім бруку немцаў, жыдоў, літвінаў, калчакоўцаў, словам усіх «унутрэнных» ворагаў—арэштаваць!

Пры гэтым п. Обст (што па пруску чытаецца «фрукт») пакладае ядыную надзею толькі на цывільные ўласці (значэ паліцію і жандармэрыю), бо войсковыя ўласці «на моцы фальшывай талеранціі і фальшывага «лібэралізму» сталіся адсунутымі ад унутрэннага упраўленьня краем».

Дзеля гэтага п. Обст (па нямецку чытай—„фрукт") вымагае, каб былі адкінуты ўсякія ваганьня, каб сільная прававітая ўласць заперла ў астрогі тысячы (дaслоўна!), прысьнўшыхся яму ў патрыатычным натхненьні агітатараў; каб была акелзана прэса нямецка-літваманска-жыдоўская і т. п.

Дык, во, што значэ праўдзівы польска-прускі патрыатызм, што значэ „не фальшывы", а такі, прымерна, 96 пробы патрыотызм з-пад фірмы: «Dziennik Wileński» п. Обст і К-о.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генэральнага Штабу.

*14 ліпня.*

**Літоўска-Беларускі фронт.**

Па ўсім вучастку вялікая дзеяльнасьць разведчыкаў, больш ніякіх баёвых стычак ня было.

**Палескі фронт.**

Бальшавіцкія контр-атакі ўздоўж зялезна-дарожнай лініі Калінкавічы—Лунінец адбіты.

**Галіцыйска - Валынскі фронт.**

Без перамены. Паміж афіцэрамі забранымі ў палон каля Язмаўца, знаходзіцца цэлы штаб 15-ай брыгады за выняткам камандзіра.

## Вайна з немцамі.

*Пазнань, 14 ліпня.*

**Паўночны фронт.**

Каля Афемі, Сыпнёва і Радванікаў ў начы агонь мінамётаў. Каля Хабылінскага, Млына і Мяла адбіты напады нямецкіх патрулёў.

**Заходні фронт.**

Каля Крыжкоўска звычайны мінны агон. Апрача стральбы—спакой.

**Паўднёвы фронт.**

Слабы агонь мінаў і звычайная стральба, нашы страты—2 раняных.

**Польшча сама ўстановіць адносіны да нарадовых меньшасцей.**

ЛУГАНО. Акружнай дарогай тутака дайшла вестка, дагэтуль ня спраўджэная, што коаліцыя ў апошні мамэнт пастанавіла справу аб нацыянальных меншасьцях развязаць самой Польшчы. (К. Б.)

*Ад рэдакцыі.* Весткі вельмі ня пэўныя бо калі мова аб этнаграфічнай Польшчы, то гэта права само сабой Польшчы прыслуговывае, а калі аб усходных «крэсах», то тут меншасць становяць акурат самі палякі.

**Чыстка Львова.**

ЛЬВОЎ. Нядаўна адбыўся кантроль нова прыбыўшых. Прычынай гэтага была, што ў апошнія дні ў места зьявілася шмат людзей. Заарэштавана 500 ваенных і 300 цывільных асоб. Сьледзтво вядзецца.

П. А. Т.

**Абарона Пецярбургу.**

ГЕЛЬСІНГФОРС. «Праўда» ад 29 чэрвеня апублікавала дэкрэт, водле каторага 10.000 дзяцей павінны быць прыцягнуты да рыцьця акопаў каля Пецярбурга. У першыя рады чырвонай арміі становяцца работнікі, за імі кітайцы і латышы, якія павінны даглядаць за працай работнікаў. У апошнія 10 дзён разстрэляна 740 работнікаў, з іх 212 пуцілаўцаў, дзеля гэтага работы на заводзі могуць спыніцца.

**Вінніца занята войскамі Петлюры.**

ВАРШАВА. Пасольства прыдняпроўскай Украінскай рэспублікі апавешчае, што 11 ліпня войскі Петлюры занялі Вінніцу, а атаман Грыгор'еў умацаваўшыся у Адэсе заняў Херсон і Нікалаеў. З гэтай жа крыніцы пішуць, што войскамі ген. Денікіна заняты зялезна-дарожны вузел Варажба.

**Ліст Гіндэнбурга.**

БАЗЭЛЬ, 12 ліпня. У газэтах друкуецца тэкст ліста, з якім ген. Гіндэнбург зьвярнуўся да маршалка Фоша. У гэтым лісьце ён піша, «што гонар салдата, які яшчэ мае цану ў старых цывілізаваных нацыях, абавязывае яго, аднаго з старэйшых салдатаў у Эўропе, выступіць у абарону сваяго імпэратара. Ён піша, што як глаўнакамандуючый, ён адзін павінян нясьці адказ за ўсё дзеяньні, ён гатоў прынесьці ахвяру і выказывае сваё перакананьне, што кожны афіцэр кожнай нацыі зрабіў бы таксама.

**Чэха-баварская вайна.**

НАУЭН. Аўстрыйскія газэты пішуць, што чэхі робяць вялікія ваенныя прыгатаўленьня на граніцы Баварыі. (П.А.Т).

**Віленскі рабін у генэральнага камісара.**

ВАРШАВА. У нядзелю тутака прыехаў віленскі рабін, каб прасіць у генэральнага камісара Асмалоўскага за арыштаваных віленскіх жыдоў.

**Загавар у Рыме.**

БЭРЛІН, „Berl. Tagebl." піша з Лугано, што ў Рыму анархісты ўвайшлі ў форт Петралата і хацелі ўзбунтаваць салдатаў. Салдаты сустрэлі агітатараў з стрэламі затрымалі частку анархістаў, рэшта іх была затрымана паліцыяй.

**Антібальшавіцкі ўрад у Вэнгрыі.**

ВЕНА. Антібальшавіцкі Вэнгерскі ўрад у Шэгедзіне вядзе перагаворы з эміграваўшымі з Вэнгрыі сацыял-дэмакратамі, каб яны ўвайшлі ў новы ўрад і пры супольнай рабоце памагліб вярнуць лад у краі. Перагаворы ідуць з посьпехам.

**Нездаваленьне Швайцарыі.**

ПАРЫЖ, 11 ліпня. Швайцарыя зрабіла заяву, што калі Нямеччына зараз-жа ня будзе прынята ў Лігу Народаў, то яна выйдзе з лігі. Магчыма што тады, глаўны ўрад перанясецца з Жанэвы ў другое места.

**Прамова Лансінга.**

ПАРЫЖ, 14 ліпня. У разьвітальнай прамове да прадстаўнікаў францускай прэсы, Лансінг выказаў, што палажэньне ў Эўропе ў цяперашні момэнт вельмі няпэўнае а мірная умова мае ў сябе шмат довадаў каб у будучыне пачаліся войны. Лансінг ня скрыў сваіх сумляваньняў аб стычках у Фіумэ (Рэкэ) між францускімі і італьянскімі войскамі. Дзеля спрэчкі між Францыяй і Італіяй па пытаньню аб Рэкэ, можа быць, што Італія адзеліцца ад Антанты.

(П. А. Т.)

**Агульная забастоўка ўва Францыі.**

Дзеля таго што францускія чыгуншчыкі пастанавілі прылучыцца да забастоўкі—пратэсту ад 5 гадз. наранiцы 21 ліпня усялякі рух на чугунцы будзе астаноўляны на 24 гадзіны.

## У ВІЛЬНІ.

**Рэвізіяназваньнёў вуліц Вільні.**

Пакліканая п. Бурмістрам камісія дзеля хрышчэньня, а лепей перахрышчэваньня віленскіх вуліц закончыла сваю працу. 76 віленскіх вуліц пры кумох п. Студніцкім і п. Брэнштэйне будуць мець новыя польскія названьня замест накінутых калісь кумам Муравьевым маскоўскіх названьнёў беларускай Вільні.

Трэба спадзевацца, што прыбудзе некалькі новых патрыятычна-польскіх імён на вуглох віленскіх вуліц і будуць замаўчаны імены гэткіх выдатных культурных віленскіх працаўнікоў эпохі гуманізму, як Мамонічы, Бабічы, Скарына, а ўсё-ж такі у Вільні ім належала-б пашана і добрая памяць. Можэ-бы хоць Беларуская Рада пастаралася, каб адну з вуліц у Вільні назваць Скарынаўскай.

**С пад арэшту.**

На стараньне старшыні Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, сэкрэтара Беларускага Нацыянальнага Камітэту п Модэста Яцкевіча зволнілі с пад арэшту.

**Дзе і калі прыймаюць тэлеграмы.**

У Вільні прыватныя тэлеграмы можна падаваць ад 8 гадз раніцы да 8 гадз. вечэра ў глаўным пачтовым Урадзе на Свята-Янскай вуліцы.

**Курсы агітатароў.**

Арганізуе гэтые курсы «Стража крэсова»; абвесткі даносяць, што на курсах будуць чытаць лекціі лектары з Варшавы і грамадзкія польскія дзеячы, слухаць лекцій будуць кандытаты ў валасныя чыны.

**Аддзел прэсы пры жандармэрыі.**

Нас паведамілі, што 15 ліпня г. г. пры жандарскім упраўленьні ў Вільні аткрыўся аддзел прэсы. Рэдакціі павінны штодзень дастаўляць свае часопісі ў бюро: Свята-Юрскі праспэкт № 8 гаспода 5.

**Таргі на дастаўку.**

Магістрат м. Вільні апавешчае таргі на дастаў каля 5000 куб. сажнёў дроў. Жадаючыя прыняць учасце ў таргах павінны падаваць у аддзел Апалу (Домініканская № 3, гаспода 201) запечатаныя прапазыціі да 12 гадзіны дня 13 ліпня г. г. Інфармаціі аб варунках дастаўкі можна атрымаць у Кіраўніка Аддзелу Апалу ад 9—11, гаспода 201.



Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.